

Уладзімір Шык
Паставы

# БЕЛЫЯ НОЧЫ НАД ЗЯМЛЁЙ «СВЕНСКАР»

*Працяг, пачатак у №12(30)*

**Раз у чатыры гады шведы дружна накіроўваюцца на выбарчыя ўчасткі, каб выбраць сабе ўладу. Швецыя – краіна канстытуцыйнай манархіі (каралеўства), аднак, улада караля Карла XVI Густава абмежавана чыста прадстаўнічымі функцыямі. Заканадаўчая ўлада належыць рыксдагу (парламенту), які фарміруе ўрад з ліку партый, што набралі найбольшую колькасць галасоў у ходзе народнага галасавання па партыйных спісах. Пасля невялікага перапынку выканаўчую ўладу зноў ажыццяўляюць сацыял-дэмакраты. Адначасова ў дзень выбараў абіраецца ландсцінг-орган, які кіруе аховай здароўя, а таксама дэпутаты мясцовых камун – адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак накшталт нашых раёнаў.**

## 2. ГАЛОЎНАЯ ЎЛАДА НА МЕСЦЫ

Гэта прадуманая і стройная сістэма функцыяніруе ўжо сотні гадоў. Кожная ўлада выконвае свае функцыі і насельніцтву добра бачны як яе поспехі, так і недапрацоўкі. У прыватнасці, за ўрадам замацаваны сферы дзейнасці абароны краіны, работа паліцыі, судоў, пракуратуры, вышэйшай школы, чыгункі. Астатнія пытанні жыццядзейнасці вырашаюць 288 мясцовых камун, на якія падзелена краіна.

Ля ўваходу ў новы супермадэрновы будынак праўлення камуны Ліндэрсберга нас сустрэў высокі, малажавы мужчына – муніцыпальны саветнік Бенгт Б'ернемальм (па-нашаму старшыня райсавета дэпутатаў). Бясшумна расчыніліся аўтаматычныя шырокія дзверы, і мы зайшлі ў хол. На сценах было шмат кветак, а па-суседству з імі віселі драўляная барана і вілы. У нішы была ўмацавана жалезная печка, у якой пару стагоддзяў таму назад выплаўлялі ў гэтых мясцінах руду. Асаблівая гордасць шведаў сёння мець у кожным доме, установе, рэстаране, магазіне рэчы сваіх продкаў, прадметы старыны, асабліва блюды, чайнікі і кафейнікі з начышчанай да блеску медзі.

У будынку праўлення камуны выдатна мебліраваныя, як і ў цэлым па краіне, кабінеты за шклом. Камп'ютары ў кожнага з 300 чыноўнікаў. У зале пасяджэнняў праўлення былы дырэктар гімназіі, лідэр тутэйшых сацыял-дэмакратаў, якому ніяк не дасі на выгляд 63 гады (у Швецыі пенсійны ўзрост аднолькавы для мужчын і жанчын – 65) даволі падрабязна і шчыра расказаў аб арганізацыі працы муніцыпалітэта.

На апошніх выбарах у Лідэнсбергу і ваколіцах было абрана 45 дэпутаў, прадстаўнікоў 8 партый. Найбольш месцаў у сацыял-дэмакратаў – 18. У строгай адпаведнасці з працэнтамі іншых партыйцаў яны сфарміравалі праўленне камунны з 15 чалавек. На іх ускладзена адказнасць размяркоўваць і кантраляваць гадавы бюджэт, які складае 150 млн долараў; вырашаць на што патраціць сабраныя народныя грошы. Сфарміравана таксама 6 асноўных ведамстваў, якія адказваюць за садзікі і школы; дарогі і паркі; сацыяльнае забеспячэнне і паджылых людзей; культуру; спорт і адпачынак; экалогію, а таксама за дзейнасць пажарных каманд у ваколіцах. Толькі адзін з палітыкаў, сам старшыня, працуе на поўную стаўку і мае 32.700 крон у месяц (3.850 долараў, з якіх пасля выплаты падаткаў і аплаты сваёй віллы застаецца на жыццё 2.120 долараў). Яшчэ трое яговых асноўных памочнікаў, у тым ліку прадстаўнік апазіцыі, працуюць на палову стаўкі. Астатнія дэпутаты – на грамадскіх пачатках або за невялічкі ганарар, які выплачваецца за ўдзел у планавых мерапрыемствах, пасяджэннях.



Што ўразіла ў Швецыі – дык гэта адкрытасць грамадства, магчымасць любому грамадзяніну дасканала ведаць, чым займаюцца органы ўлады, суды і нават паліцыя. За выключэннем сакрэтных матэрыялаў і дакументаў, усё астатняе людзі могуць пачытаць нават у бібліятэцы, куды мэрыя накіроўвае свае паперы. Дзейнасць жа палітыкаў наогул пад павелічальным шклом, за імі пільна назіраюць тыя ж газетчыкі з "Бергладпостэн". Калі ўлада сфарміравана, ў газеце з'яўляецца пара палос з фотаздымкамі ўсіх дэпутатаў, звесткамі пра іх сямейнае і матэрыяльнае становішча, жыллёвыя ўмовы, інтарэсы і захапленні.

Усе ў камуне добра ведаюць, напрыклад, што іх кіраўнік жыве ў невялічкім гарадку Фелінгсбро ў 41 км ад месца працы на старой вілле, купленай 25 гадоў назад і за якую да гэтага часу выплачвае працэнты пазыкі. Новы аўтамабіль "Вольва", на якім Бенг штодзённа дабіраецца на працу, куплены 4 гады назад на ўзяты ў банку заём. У краіне такая практыка: тут няма службовых аўтамабіляў і персанальных вадзіцеляў. У выпадку неабходнасці адказным работнікам даецца датацыя на бензін для ўласных машын. Толькі за прэм'ер-міністрам у рабочы час замацаваны шафёр-вайсковец. Нават кароль па вуліцы сталіцы ездзіць за рулём сам.



Адказны момант у жыцці мэрыі – вызначэнне аб'ёмаў абавязковых плацяжоў грамадзян. У Ліндэрсбергу, ў прыватнасці, вызначылі, што з кожных ста кронаў даходаў падаткаплацельшчык уносіць 20 камуне і яшчэ 10 на патрэбу аховы здароўя. Яшчэ 1% ідзе дзяржаўнай лютэранскай царкве, бо ўсе шведы і іх дзеці з моманту нараджэння з'яўляюцца яе членамі, калі толькі не падалі спецыяльнай заявы аб выхадзе з лона. Шматлікія храмы напаўпустыя і запаўняюцца толькі ў дні асноўных хрысціянскіх святаў і бясплатных абрадаў хрышчэння, вянчання, адпявання памерлых.

-- З грошай, якія сабраны ў камуне,-- расказваў Б.Б'ернемальм,— нічога ў сталіцу і вобласць Эрэбру, куды ўваходзіць 12 камун, не пералічваецца. Дзяржаве плоцяць падаткі толькі прадпрыемствы і фірмы. Камуна прадстаўляе рабочыя месцы чыноўнікам сферы мясцовага будаўніцтва, адукацыі, санзабеспячэння, культуры, а таксама каля 2000 **рабочых месцаў**, заробкі ў якіх складаюць 14 – 18 тыс. крон. Адзін долар роўны 8,5 крон у месяц (гэта 1.600 долараў), але, як паўтараюць шведы, гэта лічба без уліку падаткаў. Астатнія жыхары занятыя ў гандлі, у банкаўскай і страхавой справах, сферах паслуг; прыкладна трэцяя частка працуе ў прамысловасці. Буйнейшыя аб'екты прамысловасці, такія як філіял канцэрна "Вольва" і папера-картонная фабрыка, дзе заняты 600 чалавек, перакуплена амерыканцамі.

У камуне, як і ў цэлым па краіне, пераважае гарадское насельніцтва. Статус гарадкоў у Швецыі маюць паселішчы з колькасцю жыхароў не менш 200 чалавек. Больш населеныя абавязкова маюць пошту, магазін, бензакалонку, школу, царкву, клуб, кааператывы па збыту сельгаспрадукцыі. Сельская гаспадарка тут слабая. Патрэбнасці краіны ў харчаванні забяспечваюць 3% фермераў, якія маюць у сярэднім па 35 гектараў зямлі.

Апроч фірм-гігантаў у камуне зарэгістравана 900 невялічкіх прыватных прадпрыемстваў, дзякуючы якім удалося зменшыць колькасць незанятага працай насельніцтва з 15 да 10 працэнтаў. «Калі людзі не параязджаюць у іншае месца ў пошуку работы і колькасць падаткаплацельшчыкаў не змяншаецца, — падкрэсліў камунальны саветнік, значыць, камуна справілася з ускладзенымі на яе задачамі. У невялічкім гарадку Ліндэрсбергу акрамя прадстаўнічай і заканадаўчай улад прадстаўлена і трэцяя – судовая.

Суд першай інстанцыі, адзін з самых маленькіх у краіне, размяшчаецца ў шыкоўным асабняку XIXст. Працуюць тут два суддзі, якія вытрымалі конкурс і па рэкамендацыі Вярхоўнага Суда пажыццёва назначаны на пасаду ўрадам, а таксама трое практыкантаў-выпускнікоў юрфака. У год разглядаецца каля 500 спраў. Пакаранні розныя: ад штрафаў да пажыццёвага зняволення. Апошняе здараецца выключна рэдка. Пры разглядзе найбольш складаных спраў, напрыклад, аб забойствах, на працэсе прысутнічаюць да 5 прысяжных засядацеляў, якіх абіраюць па выніках выбараў.

У суддзяў выдатныя ўмовы працы: дываны, карціны, ніякіх жалезных клетак. У асобным пакоі кожны падследчы можа пачытаць на камп'ютары сабраныя па ягонай справе матэрыялы і азнаёміцца з доказам яго віны. Пасля абвяшчэння прыгавора, асуджаным даюцца тры дні для падачы апеляцый у суды вышэйшай інстанцыі. Што нова і цікава для нас, асуджаны сам выбірае для сябе зручны час, калі ён, напрыклад, у водпуску можа адседзіць прызначаны тэрмін пакарання. Апраўдала сябе і стала папулярнай такая форма пакарання, як дамашні арышт, або электронныя кандалы, але ў цэлым шведскае грамадства законапаслухмянае і ў турмах па краіне знаходзіцца крыху больш 4000 зняволеных (на Беларусі ў 15 разоў з лішнім больш). У жаночай турме строгага рэжыму Хікенборг давялося пабываць.

*Працяг будзе.*




# «ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» у крыжацкім замку 14 стагоддзя

*(Заканчэнне, пачатак у №10(28)*

### Развітанне з Крынкай

На развітанне з Крынкай, беларуская дэлегацыя была запрошана ў лес, да вогнішча, на вячэру. У палякаў такія вячэры, традыцыйна, адбываюцца са смажаннем адмысловых каўбасак над полымем кастра, якія нанізваюць на даўгія пруткі. Зразумела, гэта былі каўбаскі Лукаўскага мясакамбіната. На такіх «тусоўках» моцныя напоі не ўжываюць, проста прывозяць шмат піва. Гаспадары, сярод якіх быў дырэктар Крынкаўскай школы, войт гміны Лукаў, пані Казімера Галаўска, мясцовая інтэлігенцыя, спявалі ля вогнішча цудоўныя польскія песні пад акардэон.



Мастак Ян Магэйка (1838 - 1893).
**«Люблінская Унія 1569 года**

Беларусы праспявалі колькі сваіх нацыянальных шлягераў, і, як у Нідзіцы, у крыжацкім замку, палякі супраць нашых «вершнікаў на конях» супрацьпаставіць нічога не змаглі.

Казімера Галаўска сама пажадала паразмаўляць з адным з аўтараў «Вольнага Глыбокага». Войт пажадала поспехаў журналістам газеты і запэўніла: «Я веру, прыйдзе час і ў вас, на Беларусі, будзе ўсё добра, і тое, што вы робіце будзе спрыяць адраджэнню вашай краіны...»

Прадбачу, што нехта, прачытаўшы абедзве часткі гэтага артыкула, скажа: «Што той карысці для краіны ад наведвання школ, замкаў, прытулкаў для інвалідаў і пікнікоў ля вогнішча з півам і каўбаскамі разам з гмінным начальствам?»

Справа у тым, што наша беларуская дэлегацыя наведвала толькі грамадскія арганізацыі Польшчы. Я падкрэсліваю, што і школы ў Польшчы, у вялікай большасці, таксама з`яўляюцца грамадскімі арганізацыямі. Цяпер уявіце наколькі вольнымі ў сваіх творчых памкненнях з`яўляюцца педагогі. Кожны настаўнік можа рэалізавацца як асоба ў сваёй прафесіі. І не дзіва, што маладыя настаўнікі з Беларусі пакідаюць сваю краінуназаўсёды і едуць працаваць у польскія школы. Сярод настаўніц Крынкаўскай школы была, Алеся, якая выехала сюды з Баранавіч. Яе вельмі хваліла войт Казімера.

Мы ўсталявалі знаёмствы, кантакты з польскімі арганізацыямі і можам дапамагчы нашым землякам, напрыклад настаўнікам, якія жадаюць прайсці стажыроўку ў Польшчы, наладзіць кантакты. Гэта датычыцца тых, хто цікавіцца экалогіяй, краязнаўствам, аховай помнікаў даўніны..,

### Люблін – горад Уніі

У Люблін прыехалі апоўначы. Шмат хто спаў ужо ў аўтобусе. Расплюшчыўшы вочы, усе ўбачылі казачны горад, заліты святлом. Менавіта казачны, бо быў гэта Стары Горад з касцёламі, замкамі, камяніцамі ў стылі Рэнесанс, брукаванымі вуліцамі. Заначавалі ў гатэлі Ваяводскага Метадычнага Цэнтра.

Раніцой -- сустрэча з прадстаўнікамі люблінскага культурніцкага NGO`s Фонда «Brama Grodska», які размяшчаецца ў Старым Горадзе. Сустрэча аказалася цікавай, карыснай, багатай на кантакты.

У культурную праграму ўваходзіў шпацыр па гораду. Наведалі сярэднявечны замак, музей, старую частку горада, які пражыў стагоддзі.

Пасля абеду -- прыём у гарадской ратушы Любліна і сустрэча з віцэ-прэзідэнтам горада п. Збігневам Вайцэхоўскім.

Згадалі пра Люблінскую Унію, якой спаўняецца ў гэтым годзе 430 гадоў. Нехта з нашых пажартаваў, што «мы жадалі б гэтую Унію скасаваць». Віцэ-прэзідэнт доўга расказваў аб праблемах Любліна, асабліва аб захаванні жамчужыны сусветнай архітэктуры Старога Горада. Люблін хацеў бы падрымліваць цесныя стасункі з беларускімі гарадамі, наладзіць культурныя сувязі. Збігнеў Вайцэхоўскі запэўніў, што нягледзячы на ўсе памкненні цяперашняга кіраўніцтва Беларусі вярнуцца ў мінулае, Беларусь трапіць ў сям`ю еўрапейскіх народаў, зойме тое месца, дзе ўжо калісь была Беларусь і Польшча. Напрыканцы нашага побыту ў Польшчы, 4-5 верасня, мы ўдзельнічалі ў II Агульнапольскім Форуме Няўрадавых Арганізацый і ўбачылі зацікаўленыя адносіны дзяржавы да недзяржаўных арганізацый.

Ул. Скрабатун

Апавяд

# Вечная камандзіроўка

Вось ужо два гады, як пяцігадовая Леначка жыве без таты. Яна нават не памятае яго. На фотаздымку ён малады, прыгожы з маці ў абдымку, але для яе, Лены, ён проста чужы дзядзька. Леначка не памятае яго рук, яго жывой ўсмешкі, гутаркі. І наогул, ёй здаецца, што маці хлусіць, калі кажа, што тата ніколі не вернецца, што ён утапіўся, што пахавалі яго.

Як ён мог утапіцца, калі ёсць яна, яго дачушка Леначка, якой патрэбны моцныя татавы рукі? Як ён мог утапіцца, калі ёсць яго жонка, яе, Леначкі, мама, якой так неабходны яго пацалункі? Леначка ўжо вялікая і добра ведае, што тата і мама павінны цалавацца, каб жыць у згодзе. З кім будзе цалавацца яе мама?

Як мог утапіцца тата, калі ёсць яго маці, яе, Леначкі, бабуля, якая так нудзіцца без сына?

Як мог утапіцца тата, калі ўсе астатнія таты жывуць? Не ўтапіўся ён. Проста паехаў у далёкую камандзіроўку, як ездзіць бацька яе равесніцы Люсі. Ад'язджае і вяртаецца. Мусіць, недалёка ад'язджае. А яе, Леначчын тата, паехаў за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства, як у той казцы. Паехаў, але абавязкова вернецца. Вось будзе пацеха з мамы, калі яна нечакана ўбачыць яго на парозе. Во пасмяецца тады з яе Леначка!..

Дзяўчынка ўсміхнулася, зручней уладкавалася на падкладзенай пад галоўку ручцы. Заплюшчыла вочкі, пачала лічыць да дзесяці, збілася... Не магла заснуць. Хацела дачакацца маму: яна паехала некуды і яшчэ не вярнулася.

Хоць бы яе ў якую камандзіроўку не адправілі, а то спраўляйся тады па гаспадарцы з бабуляй удваіх. Леначка затаіла дыханне, прыслухалася да цішыні. Так хацелася пачуць лёгкія маміны крокі, яе мяккі ласкавы голас: "Спі, маё птушанятка", адчуць яе пахучую далонь на шчочцы...

За сцяной цяжка ўздыхала, размаўляла ў паўголаса сама з сабой бабуля Насця. Леначка прызвычаілася да яе размоў, слёз, стогнаў. Бабуля, горш за дзіця малое, ніяк не магла дачакацца Леначчынага бацькі з камандзіроўкі...

На наступны год Леначка пойдзе ў першы клас.

-- Хоць бы тата да таго часу вярнуўся. Так хораша будзе ісці паміж мамай і татам, узяўшы іх за рукі!

Мама навучыла Леначку чытаць і пісаць крыху. Бабуля казак нарасказала – у галаве не змяшчаюцца. Ужо і сшыткі купленыя ляжаць, і сукенка новая. З наступнай палучкі мама абяцала купіць прыгожыя стужкі і заколкі бліскучыя...

Начную цемру прарэзала святло аўтамабільных фар. Яно праслізнула над ложкам Леначкі, над шафай і ўпёрлася ў дыван на суседняй сцяне. Хлопнулі дзверцы...

Сэрца Леначкі затрапятала ад радасці: "Мамачка прыехала! Я хуценька засну, каб яна не хвалявалася. Прыйдзе, паглядзіць, пацалуе, а заўтра раскажа, дзе была..." Напружанне ад доўгага чакання раптоўна спала. Дзяўчынка ўтачылася ў коўдрачку, як мышаня ў норку... Нецярплівы сон, нібы цацку, адбіраў у яе дзённыя ўражанні і ўспаміны і клапатліва ахінаў стомленае за дзень дзіцячае цельца.

Леначка не адчувала калюча-рванай цішыні, якая запаланіла наваколле, прымусіўшы сцішыцца шапаткую восень. Яна не чула крокаў, якія крадком набліжаліся да хаты. Леначка пачула толькі настойлівы стук у дзверы.

-- Мамачка прыйшла, – з гэткай думкай яна заснула... Сярод пужліва-чорнай бязмежнай цішыні ля самых дзвярэй стаяла панурая Смерць. Яна прыйшла сказаць, што забра а ў вечную камандзіроўку маму Леначкі.

-- Дзяўчынка не ведала, што заўтра прачнецца сіратой.

**Г. Сутула**

## Гэта цікава

●Чалавечы мозг складаецца з 10 мільярдаў нервовых клетак і можа запамінаць 86 мільёнаў адзінак інфармацыі. Кожную секунду ў галаўным мозгу адбываецца каля 100 тысяч хімічных рэакцый.

●На працягу сутак чалавек робіць каля 20 тысяч крокаў. За год -- 7 мільёнаў, за 70 год -- амаль 500 мільёнаў. Гэта шлях прыкладна ў 348 тыс. км. і роўны адлегласці ад Зямлі да Месяца. За 70 год жыцця чалавек мог бы 9 разоў абысці зямны шар.

●Сацыёлагі падлічылі, што жонка, якая даглядае двух дзяцей і мужа, на працягу года мые нажы, лыжкі і відэльцы 18 тысяч разоў, талеркі -- 13 тысяч, кубкі -- 8, бутэлькі -- 3 тысячы разоў. А яна ж яшчэ ходзіць на працу.

●30-я ўгодкі свайго кіравання лівійскі лідэр Кадафі адзначыў прэзентацыяй звышсучаснага хуткаснага аўтамабіля з красамоўнай назвай «Лівійская ракета». Сцвярджаюць, што гэты шэдэўр стварыў сам палкоўнік Кадафі. Плануецца пабудаваць адмысловы завод магутнасцю да 150 тысяч машын штогод.

●Амерыканец Біл Гейтэ, кіраўнік фірмы «Майкрасафт», геній праграмавання і маркетынга, самы багаты чалавек планеты. Яму 43 гады. Яго маёмасць складае 90 млрд. долараў. Прыбыткі ўвесь час растуць. Яны параўноўваюцца з валавым нацыянальным даходам такіх краін, як Ізраіль, Перу, Фінляндыя, Балгарыя разам узятыя.



Царква ля вёскі Дзедзіна па дарозе на Галубічы.

Да 2000-годдзя хрысціянства

## Не хлебам адзіным жыве чалавек

Люби, душа, господне слово, терпенье разуму внушай
И веру, вместе с Божьей кровью,через причастье принимай.
И лжи, и зла полно на свете -- себя ничем не искушай
Живи и помни: добродетель -- бальзам души и вечный рай.
За всё: за слёзы, за везенье, за радость, счастье, за печаль
Благодари лишь отреченьем от язв земных. Ведь их не жаль.
Утешь себя строкой молитвы, за всё, что есть--благодари.
Не будь, душа, как поле битвы --и к ней потянутся Миры.
Века проходят, гибнут власти -- для многих характерно мест,
За все грехи людей, их страсти Господь несёт тяжёлый крест.
Путь возрожденья, избавленья прошли десятки, сотни, рать.
Коль согрешили--на колени -- Отец--Бог всех готов прощать!

**Г. Бялята.**

Сацыялагічнай службай **«Зеркало»** кампаніі БелаПАН праведзена чарговае апытанне **600** жыхароў Мінска. Галоўнае месца займала пытанне аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Мінчанам, якія выступаюць супраць саюза (а такіх **51%**), прапанавалі адказаць: «у сувязі з чым Вы **не падтрымліваеце** стварэнне саюзнай дзяржавы?» Адказы размеркаваліся наступным чынам:

| | |
|---|---|
| 1. Беларускія хлопцы будуць вымушаны служыць у «гарачых» кропках Расіі. | 45% |
| 2. Беларусь страціць дзяржаўны сувернітэт. | 44% |
| 3. Затрымкі з выплатай зарплат і пенсій павялічацца. | 38% |
| 4. Інфляцыя вырасце. | 35% |
| 5. Беларусь ператворыцца ў правінцыю Расіі. | 34% |
| 6. Падаражэюць тавары. | 31% |
| 7. Беларусь страціць сваю нацыянальную самабытнасць, культуру, мову. | 31% |
| 8. У Беларусь прабярэцца расійская мафія. | 5% |
| 9. Эканоміка краіны стане больш мілітарызаванай, у Беларусі можа з`явіцца ядзерная зброя, узрасце ваеннае супрацьстаянне Захаду. | 22% |
| 10. У Беларусь хлыне расійскі бізнес і скупіць усе прадпрыемствы. | 19% |
| 11. З`явяцца праблемы з працаўладкаваннем. | 10% |
| 12. Нешта яшчэ. | 6% |
| 13. Цяжка адказаць. | 9% |

Мінчанам было прапанавана таксама адказаць на пытанне «Ці маюць месца, на Ваш погляд, у Беларусі наступныя з`явы?»

| *Адказы дадзены ў працэнтах.* | Так | Не |
|---|---|---|
| 1. Раскраданне дырэктарамі, старшынямі, чыноўнікамі і г.д. дзяржаўнай, калгаснай уласнасці. | 53 | 28 |
| 2. Хлусня, падман насельніцтва РБ з боку прадстаўнікоў заканадаўчай і выконваючай улад. | 53 | 26 |
| 3. Парушэнне правоў чалавека | 49 | 32 |
| 4. Карупцыя ў вышэйшым кіраўніцтве краіны. | 47 | 28 |
| 5. Судзебныя ганенні па палітычных матывах. | 33 | 33 |
| 6. Пагроза жыцця апазіцыйным палітыкам. | 21 | 29 |
| 7. Выкананне беларускімі чыноўнікамі заданняў расійскіх спецслужбаў. | 16 | 22 |
| 8. Падрыўная дзейнасць заходніх спецслужбаў. | 14 | 22 |
| 9. Перашкоды дзейнасці Лукашэнку з боку апазіцыі. | 13 | 30 |
| 10. Небяспека змовы супраць Лукашэнкі. | 11 | 25 |
| 11. Перашкоды дзейнасці Лукашэнку з боку чыноўнікаў, мясцовых улад. | 9 | 30 |

Мінчане рэальна ацэньваюць сітуацыю. Акрамя прыведзеных адказаў, некаторыя запісвалі ў анкетах такія з`явы «як неаб`ектыўная ацэнка падзей дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі», «супярэчлівасць заканадаўства», «мэтанакіраваная дэградацыя народа».

Небяспеку аб`яднання з Расіяй адчуваюць і многія жыхары іншых гарадоў і рэгіёнаў. Бяда ў тым, што народам толькі прыкрываюцца, а слухаць яго ніхто не хоча.

Радкі з канвертаў

## Гісторыя на вуліцах горада

Хто сказаў, што наша камуністычна-ідэалагічная гісторыя адышла ў небыццё і мы жывём у дэмакратычным грамадстве?

Гістарычная недарэчнасць, непаразуменне -- маўзалей Леніна ў Маскве каменнай глыбай лезе ў вочы прыезджым і наганяе страх на былую, яшчэ жывую наменклатуру. Душа правыдара, як непрыкаяная вітае паміж раем і пеклам, не знаходзячы спачынку і сатанеючы ад крывавых сцэнарыяў рэальнасці, распрацаваных і пушчаных на ідэалагічны «канвеер» самім правадыром. Згадзіцеся, большага пакарання, чым застацца непахаваным, знаходзячыся паміж небам і зямлёй, прыдумаць цяжка, але іншага наш Ільіч, відаць, не заслужыў.

У невялічкіх раённых гарадках былое камуністычнае наследдзе, занатаванае ў назвах вуліц, плошчаў, завулкаў, прэ за вярсту, выклікаючы горкую ўсмешку. Галоўная вуліца ў Глыбокім -- Леніна. Другая па важнасці -- Савецкая. Немалаважная акалічнасць тут тая што, савецкая ўлада пачыналася з судоў, турмаў, расстрэлаў. Савецкая вуліца ў Глыбокім поўнае адлюстраванне тых падзей -- пачынаецца судом, заканчваецца вязніцай. Ёсць у горадзе і «паслядоўнікі» сістэмы -- вуліцы Піянерская, Камсамольская.

Суседні Браслаў таксама сустракае Савецкай вуліцай. Паварочваю направа, трапляю ў «абдымкі» строгай назвы «жалезнага» Фелікса Дзяржынскага. Далей ідзе Юбілейная. Не здзіўлюся, калі непадалёк будзе Піянерская. Так яно і сталася. Адно добра -- асфальт гладкі, паважаюць, значыць,у нас гістарычныя імёны і асобы. І раптам налева ад магазіна, вузенькая, у калдобінах, без паху асфальта, вуліца... Нізашто не здагадаецеся чыя: Дзям`яна Беднага. Як быў бедны, нікчэмны інтэлігент і пісьменнік, так і вуліца яму адпаведная, па заслугах.

Гарадскія ўскрайкі, упрыгожаныя новабудоўлямі, называюць зараз, згодна модзе, імёнамі і прозвішчамі знакамітых землякоў. Мне, да прыкладу, прыемней было б жыць на вуліцы Скарыны, чым на Леніна. І ўсё ж спадзявацца на поўнае адраджэнне нельга. Некаторыя «дэмакраты» зноў упадаюць у крайнасці і распачынаюць спіс імянных палёў. За працу на іх калгаснікам плацяць на 10% больш, чым за работу на звычайных палях. І гэта ў нас, на Беларусі. Хоць палі няхай будуць з прывілеямі, калі чыноўнікі страчваюць іх.

Калі паразважаць, то хто быў нічым, той стаў сёння апазіцыянерам, хто быў усім -- пайшоў у вертыкальшчыкі, застаўшыся ўсім. Гістарычнае развіццё грамадства, як вядома, ідзе па спіралі. Перш чым падняцца на віток вышэй, трэба на паўвітка спусціцца назад. Вось у гэтае «назад» мы і вярнуліся. Хто сказаў, што камуністычна-ідэалагічная гісторыя адышла ў нябыт? Не адышла. Яна пераўтварылася ў нашу рэальнасць.

**Т. Альшэўскі,**
*Шаркоўшчынскі раён.*



Ці смех, ці грэх: ну што ты зробіш?! Якраз на трынадцатым кіламетры заглох матор. Закасвай рукавы, шукай прычыну непаладкі. Ды яшчэ ў газету трапіш. І не вер ты пасля гэтага ў тое, што лічба «13» нешчаслівая.

## Мінімум, але своечасова?

Я скончыла тэхнікум, атрымала дыплом аб заканчэнні універсітэта, працую ў сістэме адукацыі і да кастрычніцкага павелічэння «мінімалкі» атрымоўвала ажно 9 млн. 700 тыс. рублёў. Гэта кожны дзень я зарабляла па 454 тыс. (22 рабочыя дні ў месяц). Калі падзяліць гэту суму на 8 гадзін працы, то за гадзіну разумовага напружання дзяржава плаціла цэлых 56 тыс. рублёў, кошт адной буханкі хлеба і то з нацяжкай. Што я магла купіць на 454 тысячы? Літр кефіру, дзве бутэлькі малака, хлеб, батон, паўдзесятка яек, грамаў 300 смятаны, 200 грамаў каўбасы, можа невялічкую сялёдку. Скажаце, на адну хопіць. Але гэтых 454 тысяч павінна хапіць на дзень і двум маім дзецям, якія пакуль не зарабляюць. Калі раздзяліць тыя прадукты на траіх, атрымоўваецца -- нюхаць нюхалі, а ніхто не наеўся. І калі пішуць «няхай лепш мінімум, але своечасова», робіцца брыдка і ад тых слоў, і ад «клопату» дзяржавы, і ад саміх сябе, што не можам дабіцца годнага жыцця.

**Я. Астравец**

*Няхай розум Ваш будзе светлым, а справы -- шчырымі!*

"ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ"
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік : Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула
Юрыдычны адрас: BELARUS, 211800, г. ГЛЫБОКАЕ, вул. Маскоўская, 121
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года.
Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- друкаваны аркуш. Наклад 1000 паасобнікаў. Друк афсетны. Падпісана ў друк 4лістапада 1999 г. у 16.00. Замова ..........
Меркаванні рэдакцыі і аўтара могуць не супадаць.